 

Увага! У сувязі з Днямі

Асветы, кніжкі і друку

# ТРАДЫЦЫЙНЫ ЛІТАРАТУРНЫ КОНКУРС

**ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА - КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА ВАЯВОДСКАЙ БІБЛІЯТЭКІ І «НІВЫ»**

**Мой родны кут, які ты мілы!**
**Цябе забыць не маю сілы.**
**Не раз я стомлены дарогай**
**Жыцця вясны сваё убогай,**
**Да цябе ў думках залятаю**
**І там душою спачуваю.**
**О, як хацеў бы я спачатку**
**Дарогу жыцця па парадку**
**Прайсці яшчэ раз, аглянуцца,**
**Прыбраць з дарог камені тыя,**
**Што нішчаць сілы маладыя, —**
**К вясне хацеў бы я вярнуцца.**

Так, Вы адгадалі. Гэта ўрывак з паэмы Якуба Коласа. Але мы маем пэўныя засцярогі. Наборшчык згубіў тэкст і набіраў урывак з памяці. Мог памыліцца. Памажыце нам выявіць: памыліўся наборшчык, ці не? Калі не памыліўся, пішыце «наборшчык не памыліўся». А калі па-вашаму зрабіў ён нейкія памылкі ці недакладнасці, тады пішыце: «Наборшчык памыліўся, набраў так і так, а павінна быць так».

Зрабіўшы свае заўвагі, напішыце загаловак паэмы і свой дакладны адрас і дасылайце ліст да рэдакцыі.

Сярод удзельнікаў, якія прышлюць правільныя адказы разлясуем 30 каштоўных кніжных узнагарод (Напрыклад, 6 тамоў Кузьмы Чорнага).

Конкурс будзе працяваць да 31 мая.

Жадаем прыемнай забавы і выйгрыша!

## ЛІХТАРЫ

Цёмна ноччу на вясковых вуліцах. У паветовых мястэчках хаця дзені-дзе ліхтаровыя стаўпы тырчаць, але над вёскамі толькі адзін ліхтар свеціць — той, якога Усевышні павесіў у час стварэння свету. Праўда, гэты старынны ліхтар мае шмат агульнага з нашай электрастанцыяй. Часам свеціць толькі рагатай палавінай, значыцца і на небе ёсць эканомія светавой энергіі.

Бывае, што ліхтары хварэюць і гэта перашкаджае ім добрасумленна выконваць свае абавязкі. Напрыклад: няма ў электрастанцыі толку — няма і току; часам лямпачка перагарыць, а часам, проста дзяжурны электрык з выпадку пахмелля забудзе рубільнік уключыць, і стаяць тады ліхтары цёмныя, усё роўна бы шапкі насунуўшы на вочы.

З нябесным ліхтаром зусім іншае. Ён працуе па каляндарных тэрмінах. Як хмаркі не гуляюць, дык усё ў парадку.

Мабыць прыйдзе час, калі ў вёсках не толькі над гэзсамі будуць гарэць лямпачкі, а на кожнай вуліцы. Але пакуль што там людзі свецяць уласнымі ліхтарамі. Асабліва п'яныя. Панабіваюць сабе сінякоў у цемнаце — хто аб плот, хто аб дрэва. Іншы раз пры сяброўскай выпіўцы ліхтароў сабе наставяць і свецяць імі ўдзень і ўночы. Наймачай, забываюць рубільнікі выключаць. Іншы раз і ў гарадах спатыкаецца, што ліхтары і днём гараць — нібы сонцу свяціць памагаюць. Значыцца, справы з ліхтарамі ў нас не зусім у парадку.

Мабыць, асабліва варожа ставяцца да ліхтароў веласіпедысты і фурманы. Ездзяць у поцемкі па дарогах, бы прывіды. Спяшаюцца да дарожных катастроф даехаць. Поўбяды, калі прыйдзецца ў бальніцу трапіць, але горш, калі ў царкву. Тады і многія запаленыя ліхтары не запаляць жыцця, якое згасла.

Мой сусед пехатою ходзіць, а кішэнны ліхтарык носіць. Пачуе грукат калёс, адразу сноп святла пасылае. Ведай, моў, што не адзін па начной дарозе блукаеш. І падумайце, дарагія чытачы, аб'язджаюць суседа бокам, значыцца, дажыве чалавек да сваёй смерці.

Я ўсім тым, хто не захоўвае правіл руху на агульных дарогах, ставіў бы ліхтары галавешкай, каб небяспечнымі для іншых яны не былі. А што ў вёсках ночанькі цёмныя, дык гэта зусім не перашкаджае людзям мець асвечаны розум.

*Дзядзька Лявон*






Без слоў.



Рацыяналізатар.



Рапіца ў акіяне.

## Агенцтва гумару і сатыры паведамляе



Сямяцічы. На дарозе паміж Сямяцічамі і Крупіцамі ляжыць зрэзаная велізарная вярба. Кажуць, што не выпадкова ле тут нехта зрэзаў. Справа ў тым, што вялізнае дрэва разляглося на ўсю шыр дарогі. Пешаходы абмінаюць гэтую перашкоду, грэзнучы па калені ў лепкай гліне размоклага поля. Але фурай або самаходам тут не праедзеш. Такая перашкода вельмі на руку ўсім тым з Крупіцкай ГРН, якія здцягваюць у рэалізацыі абавязковых паставак дзяржаве. Да іх жа не даедзе прадстаўніцель фінансавага аддзела прэзідыума ПРН. Дарожны аддзел у Сямяцічах мабыць салідарны з тымі камбінатарамі, бо дарога ўсё яшчэ заваленая.

(вб)

### ХТО ЛЕПШ

— Навошта ты кінуў каменем у свайго сябра?

— Мамачка, ён кінуў першы.

— То трэба было мне сказаць.

— Ты думаеш, што лепш у яго трапіла б?

**Ян Ясьвілевіч**
Пасынкі

### СМУТАК ЯНКІ

Ідучы з дзяўчынай, Янка прывітаўся з нейкай другой дзяўчынай.

— Што гэта значыць, вытлумач мне, — сказала яго сяброўка.

— Так то так, — скрывіўся Янка, — але як вытлумачуся перад ёю.

**Мікола Беразавец**
Бельск

## САМААБСЛУГОЎВАННЕ

### У ШКОЛЕ

Вучань: — Я б хацеў, каб клас у нас быў круглы.

Настаўнік: — Навошта?

Вучань, — Тады б я ніколі не стаяў у куце.

**Мікола Кузьміцкі**
Плюцічы

### ШТО ЗРАБІЦЬ

Пацыент пытае ў доктара:

— Скажыце, калі ласка, што зрабіць, каб ад прыбытку галава не балела?

— Адрубаць — адказаў доктар.

**Віктар Вашкевіч**
Стрыкі.

### БАЦЬКА І СЫН.

Бацька: — Ты зноў тут ляжыш. Ты не варты, каб на цябе сонца свяціла.

Сын: — Таму я і лёг пад дрэвам.

**Сцяпан Гаральчук**
Мокрэ




### У ЯКІ ПАДАЦЦА БОК.

У Мацейкавай Гары
Дваццаць два гаспадары.
Вузкі паласы аруць,
Па калісьняму жывуць.
Але гэта да пары,
Ужо ў Мацейкавай Гары
Мараць людзі, каб аснову
Залажыць пад долю нову.
Вось зышліся неяк з рана
Усе сяляне у Сцяпана.
— Раскажы ты нам, браток,
У які падацца бок?
Ты нямала зведаў свету,
Ды й чытаеш шмат газетаў.
Ураджаі у нас дрэнны,
На лугах што год менш сена.
Як бы гэта так зрабіць,
Каб багата й добра жыць.
Сцяпан ўзяў вады напіўся,
Людзям нізка пакланіўся,
Усіх вачыма абвёў
І пачаў вось з гэтых слоў:
— У нас, у Мацейкавай Гары
Дваццаць два гаспадары,
Кароў дойных дваццаць шэсць,
Дваццаць коней, кабыл шэсць.
На гектар — два араня
Кожны корміць год каня.
Кожны конь — як конь здаровы -
Корму з'есць за дзве каровы.
А з каня так, як з быка,
Не надоіш малака,
Не дажджэш з яго цялятка.
Вось дзе дурасць наша, братка.
Каб арцельна мы рабілі,
У сто раз больш мелі б сілы
Луг ўзялі б змельеравалі,
Поле трактарам аралі б.
Вось ў які трэ' йсці нам бок,
Разам у сельгасгурток!

**МІХАСЬ КРАСОЎСКІ**
Малынка

 